**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 26 (742) 26 чэрвеня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**На радзіме Васіля Быкава, в. Бычкі, 21.06.2014 г.**
**Святочныя мерапрыемствы з нагоды 90-х угодкаў з дня нараджэння сусветнавядомага пісьменніка.**
**Спявае бард Віктар Шалкевіч, які ў гэты дзень атрымаў Прэмію імя Васіля Быкава «За свабоду думкі».**

*Фота Ул. Скрабатуна.*

Верхнядзвінскі раён

# Свіны перапалох альбо зноў АЧС?

■ Чэслаў Якубовіч

**У мінулым годзе многія беларусы сутыкнуліся з такой сур'ёзнай праблемай як масавыя захворванні свойскіх свіней і дзікоў афрыканскай чумой.**

У выніку пагалоўе свіней па краіне скарацілася на 700 тысяч галоў, на Віцебшчыне пацярпелі сем буйных свінакомплексаў, а сам статак зменшыўся амаль на 20 %. Аднак сёлета ў пачатку лета прыйшлі, праўда, пакуль неафіцыйныя звесткі ў Інтэрнэце аб трывожнай сітуацыі ў Верхнядзвінскім раёне. Там на адным з панадворкаў у аграгарадку Каханавічы раптам пала парачка парасят. Іх гаспадыня паведаміла аб гэтым ветслужбе і неўзабаве ў гэтым населеным пункце пазбавіліся ад свіней. Каб пазбегнуць магчымай бяды, насельніцтва і на чыгуначнай станцыі Бігосава пачало калоць свіней. Зразумела, гавораць аб з'яўленні ў раёне новага ачага віруса АЧС рана, неабходна правесці спецыяльныя лабараторныя даследванні. А вось спецыялісты ветсанслужбы неафіцыйна робяць змрочныя прагнозы, што гэта хвароба зноў падымае галаву. Дарэчы, і сёлета зімой афрыканская чума выяўлялася на тэрыторыі асобных вёсак у Смаргонскім і Ваўкавыскім раёнах суседняй Гродзенскай вобласці. У гэтым рэгіёне ў Карэліцкім раёне знішчылі пагалоўе свіней на трох свінакомплексах. Добра тое, што небяспекі для здароўя чалавека афрыканская чума свіней не ўяўляе. Мяркуючы па развіцці падзей, далейшы каранцін і шэраг законам устаноўленых абмежавальных мер па недапушчэнні АЧС прадоўжаць дзейнічаць і надалей. Людзям жа і на захадзе вобласці займацца гадоўляй свіней на панадворках становіцца рызыкоўна, паколькі гэта зараза можа і ў нас аб'явіцца і тады ўсё пагалоўе ў зоне захворвання будзе знішчана.

Полацкі раён

# Слаўны людзьмі і справамі

■ Станіслаў Раманчук

**Услед за самым старажытным горадам краіны Полацкам штогод у пачатку лета свае свята адзначае і яго малады суседпрыгажун Наваполацк.**

У гэтым годзе ўрачыстасці з нагоды 56-годдзя нафтаграда, як і раней, працягваліся шэсць дзён, а пачаліся з фінала гарадскога конкурсу "Міс Наваполацк-2014". У маладым горадзе над Дзвіной шмат жыве прыгожых дзяўчат, на гэты раз першай прыгажуняй сярод іх прызналі вучаніцу СШ № 5 і спартсменку Лізу Рабінкіну. Дзень роднага горада, якому споўнілася толькі 56 гадоў, навапалачане пастараліся зрабіць яркім і запамінальным, бо тут зараз адзін з самых паспяховых прамысловых цэнтраў Беларусі, а мясцовы НПЗ "Нафтан" з'яўляецца самым прыбытковым айчынным прадпрыемствам. Штодзень у розных кутках нафтаграда ладзіліся разнастайныя мерапрыемствы: выставы, канцэрты, конкурсы, прайшлі таксама дзіцячы абласны цыркавы фестываль і рыцарскі турнір. Галоўны ўрачыстасці адбыліся ў суботу, калі тысячы гараджан ў святочнай калоне па цэнтральнай вуліцы прыйшлі на галоўную плошчу Будаўнікоў. Па традыцыі былі адзначаны дасягненні землякоў у розных сферах, а пачэснае званне яшчэ аднаго ганаровага грамадзяніна Наваполацка было прысуджана дацэнту Полацкага дзяржуніверсітэта Уладзіміру Бічаніну. У мінулым ён плённа працаваў у гарадской гаспадарцы, на працягу 12 гадоў кіраваў гарвыканкамам, калі нафтаград асабліва бурна развіваўся. На ўрачыстасці да навапалачан прыехала шмат замежных гасцей і артыстаў, а перад працяглым гала-канцэртам гараджан парадавалі сваім майстэрствам два адметныя харэаграфічныя калектывы з латвійскага горада-курорта Юрмала. Упершыню на свяце прысутнічала дэлегацыя з польскага горада Плоцка і падчас Дня горада запрасіла наваполацкі дзіцячы хор "Звонкія галасы" прыехаць да сябе, выступіць перад палякамі ў старажытным кафедральным саборы, бо палякаў вельмі ўразіў высокі ўзровень гэтага калектыву.

Пастаўскі раён

# Падарункі да фестывалю

■ Кастусь Александровіч

**Ужо амаль чвэрць стагоддзя нельга ўявіць Паставы без міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік".**

Гэта буйное прыгожае свята сапраўдных творцаў у гэтым годзе запомнілася не толькі шырокім прадстаўніцтвам выканаўцаў і калектываў з 9 краін свету, але і супала з масавымі ўрачыстасцямі з нагоды 605-годдзя горада. Падчас фестывалю райцэнтр пераўтварыўся ў сапраўдны горад рамёстваў, галоўную канцэртную пляцоўку ў адзін з дзён аддалі на некалькі гадзін дзецям і прайшло яркае свята дзяцінства з удзелам 19 розных творчых дзіцячых калектываў. Падчас гэтай імпрэзы зрабілі падарунак выхаванцам дзіцячага прытулку, якія сталі першымі гледачамі новай адкрытай на фестывалі сучаснай залы 3 D у кінатэатры "Радзіма". У ім таксама працуе і зала 7 D з незвычайнымі спецэфектамі, аэрахакеем, дэманструюцца фільмы і ў фармаце 2 D у яшчэ адной зале. Праз некалькі гадзін удзельнікі і госці фестывалю сталі сведкамі ўрачыстага адкрыцця новага філіяла раённага краязнаўчага музея ў абноўленым Палацы Тызенгаўзаў. Гэты праект ажыццявіўся ў садружнасці з калегамі літоўскага горада-пабраціма Пастаў Рокішкіса. На стварэнне цікавейшай экспазіцыі беларускі бок адтрымаў ад Еўрасаюза амаль 400 тысяч еўра фінансавай дапамогі. Пасля першай экскурсіі па музейным палацы на вуліцы прайшоў традыцыйны канцэрт "Музыка беларускіх палацаў і сядзіб", а на наступны дзень ансамбль Белдзяржфілармоніі "Класік-Авангард" даў новае прадстаўленне ў мясцовым касцёле. Таксама падчас фестывалю газета "Пастаўскі край" пачала пастаянна друкавацца ў колеры.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 26.06.14 | | | | Пятніца 27.06.14 | | | | Субота 28.06.14 | | | | Нядзеля 29.06.14 | | | | Пн.30.06.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +13 | +13 | +14 | +15 | +9 | +13 | +18 | +18 | +11 | +17 | +21 | +20 | +16 | +19 | +21 | +19 | +16 | +17 | +19 |
| Ціск | 748 | 750 | 751 | 751 | 753 | 754 | 755 | 755 | 755 | 755 | 753 | 751 | 749 | 747 | 746 | 745 | 745 | 746 | 746 |
| Вільготнасць | 78 | 83 | 72 | 68 | 80 | 70 | 47 | 58 | 86 | 67 | 40 | 55 | 78 | 74 | 58 | 73 | 89 | 82 | 61 |
| Вецер м/сек | 5 С-В | 4 С | 2 С | 1 С-В | 3 С | 3 С | 2 С-З | 2 С-В | 3 Ю-В | 4 Ю-В | 5 Ю | 3 Ю | 4 Ю | 4 Ю | 6 Ю-З | 2 З | 2 З | 2 З | 5 З |

# Аб самым надзённым

## ЗАЦЯЖНЫ РОСТ ЦЭН У БЕЛАРУСІ ПАЦВЯРДЖАЕ НЕЭФЕКТЫЎНАСЦЬ ІСНУЮЧАЙ АЙЧЫННАЙ ЭКАНАМІЧНАЙ СІСТЭМЫ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Нават у выбраным уладамі Беларусі спачатку Мытным саюзе, а цяпер у Еўразійскім эканамічным саюзе рост цэн у нас значна апярэджвае адпаведныя паказчыкі ў Расіі і ў Казахстане. І такая сумная тэндэнцыя захоўваецца ўжо другое дзесяцігоддзе.**

Варта толькі на некалькі тыдняў апынуцца за граніцай, каб пасля вяртання на радзіму пераканацца: на прасторах сінявокай Беларусі мала што змянілася, у параўнанні з савецкім часам. Праўда, гэта не датычыць галапіруючай інфляцыі, якая стала адной з асаблівасцей сучаснага жыцця-быцця па-беларуску. Высокія пастаянныя тэмпы росту цэн адрозніваюць нашу краіну ад астатняга свету.

Вось і сёлета ўжо ў пачатку лета статыстыка зафіксавала павышэнне спажывецкіх цэн у Беларусі ў студзені-маі на 8,9%. Характэрна, што ў мінулым годзе падобны паказчык беларусы мелі па выніках працы за 8 месяцаў. Нават у нашых бліжэйшых суседзяў прыбалтаў, палякаў звычайна гадавая інфляцыя не перавышае 2-3%. У больш моцных рынкавых дзяржавах кантынента, той жа Германіі рост цэн альбо адсутнічае, альбо меней 1%. Мы ж па гэтым паказчыку ў свеце займаем сумніўнае лідарства, на постсавецкай прасторы на беларусаў смела можна паказваць пальцам.

Нават у выбраным уладамі Беларусі спачатку Мытным саюзе, а цяпер у Еўразійскім эканамічным саюзе рост цэн у нас значна апярэджвае адпаведныя паказчыкі ў Расіі і ў Казахстане. І такая сумная тэндэнцыя захоўваецца ўжо другое дзесяцігоддзе. Нагадаем, што на гэты год ставілася беларускім урадам задача ўкласціся ў гадавы баланс інфляцыі 11%. А калі стала відавочна, што яна не будзе выканана, у Нацбанку РБ загаварылі, што завершым год з паказчыкам росту цэн 16-17%. Аднак і гэта – занадта аптымістычная ацэнка, незалежныя эканамісты прагназуюць, што гадавая інфляцыя ў 2014 годзе будзе дзесьці 18-20%.

Справа ў тым, што зараз назіраецца аслабленне крэдытна-грашовай палітыкі, каб заткнуць чарговыя эканамічныя дзіркі. Да прыкладу, на чарговай чэрвеньскай нарадзе па пытаннях развіцця айчыннага АПК зноў шукалі спосабы падтрымкі гаротных беларускіх калгасаў не за кошт "всего государства и народа". Аднак за чый кошт можна пакрыць велізарныя даўгі гаспадарак, якім чынам вярнуць іх значную запазычанасць перад банкамі-крэдыторамі? На практыцы гэта выяўляецца перыядычным павышэннем кошту прадуктаў харчавання, якія сталі ўжо ў разы даражэйшыя ў параўнанні з суседзямі і на ўзроўні сусветных цэн.

Па росту цэн у абвальным 2011 годзе Беларусь апярэдзіла ўсё чалавецтва. Аднак і наступныя два гады, хоць і былі адносна ўстойлівыя, але ж паказчыкі інфляцыі зашкальвалі і склалі пазалетась 21,8% і год назад 16,5%. А адкуль такія праблемы пачынаюцца? Справа ў тым, што ў нас дзяржава вельмі моцна ўмешваецца ў эканоміку, рэгулюе і кантралюе практычна ўсё, ставіць задачу вытворцам тыя ж 500 долараў работнікам сваім плаціць, нягледзячы на нізкія тэмпы прадукцыйнасці працы і росту ВУП.

Таксама банкі прымушаюць крэдытаваць не толькі АПК, але і розныя будаўнічыя аб'екты, іншыя праекты.

Беларуская прадукцыя таксама не вызначаецца добрай якасцю і нізкай цаной, яна стала слабей прадавацца на знешніх рынках. Да прыкладу, зараз на складах з-за каманднага кіравання заводамі і фабрыкамі скапілася камбайнаў у 5,1 разы болей іх сярэднямесячных аб'ёмаў вытворчасці. Не дапамагло і ўказанне ўрада Беларусі прадаваць нашу прадукцыю па цэнах ніжэй сабекошту. У маі ў сталіцы на складскіх пляцоўках (сітуацыя на МТЗ яшчэ больш-менш прымальная) знаходзіліся 10,5 тысяч непрададзеных трактароў, амаль 1600 розных станкоў. А па краіне складскія запасы перавысілі 35 трыльёнаў рублёў, вось адкуль нашы беды, якія правакуюць рост цэн.

Адначасова з гэтым растуць апасенні ў насельніцтва, што зноў можа абваліцца нацыянальная валюта, бо дэвальвацыя рубля імгненна прывядзе да росту цэн і на імпартныя тавары. У такой сітуацыі дрэнна, відавочна, усім. Невыпадкова ў чэрвені Нацбанк захаваў стаўку рэфінансавання на ўзроўні 21,5%. А раз крэдыты дарагія, дзе вы бачылі танныя тавары. Адзін толькі май сёлета забяспечыў прырост інфляцыі 2,2%. На жаль, рост цэн прадоўжыцца і надалей.

Кіраўнік дзяржавы на той жа нарадзе па сітуацыі ў АПК папярэдзіў упраўленцаў, каб тыя празмерна не захапляліся рынкавымі рэформамі і мерамі свабоднага цэнаўтварэння. А вось па выніках пасяджэння канкрэтныя ўказанні да банкаўскай сістэмы не былі агучаны, напярэдзе яшчэ больш буйная нарада па перспектывах развіцця беларускай сельскай гаспадаркі. Аднак, як паказвае папярэдні вопыт, сітуацыя не толькі ў АПК у далейшым істотна не зменіцца, а нам трэба будзе перажыць традыцыйны далейшы рост цэн у сярэдзіне лета-пачатку восені.

## Дзень за днём

**У пачатку лета інфляцыя склала ўжо 8,9% пры гадавым прагнозе 11%, найбольш падаражэла мяса. Беларусь прадаўжае жыць у доўг, рост заробкаў зноў стаў апераджаць тэмпы павышэння прадукцыйнасці працы. Нацбанк РБ прагназуе рост курсу долара сёлета на 12-13%. У бліжэйшы час падаткі на дармаедаў уводзіцца не будуць. Да 1 сакавіка 2015 года прадоўжылі тэрмін рэалізацыі на рынках краіны тавараў легпрама без дакументаў. Беларусы могуць услед за Расіяй перайсці на зімовы час, перавод стрэлак адмянілі восенню 2011 года.**

# Важнейшыя навіны свету

**Швецыя.** У Стакгольмскі арбітраж звярнуўся ўкраінскі "Нафтагаз" з-за несправядлівых цэн на газ "Газпрама", які ўвёў рэжым перадаплаты і спыніў падачу газу ва Украіну.

**Ірак**. Узброеныя банды ісламскіх баевікоў захапілі гарады Масул і Цікрыт, 429 млн. $ у банках, узялі ў закладнікі 48 турэцкіх дыпламатаў з сем'ямі, ААН асудзіў іх дзеянні.

**Бельгія**. Глава місіі ЕС Ян Тамбінскі пацвердзіў у Кіеве, што Украіна можа перайсці на бязвізавы рэжым паездак грамадзян з Еўрасаюзам ужо да канца гэтага года.

**Украіна.** Прарасійскія заезджыя бандыты на тэрыторыі Луганскай вобласці стварылі яшчэ адну псеўда "рэспубліку" – Лісічанскую народную і аб'явілі вайну Кіеву.

**ЗША.** Прэзідэнт Барак Абама прадоўжыў яшчэ на год уведзеныя ў 2006 годзе санкцыі супраць беларускіх улад за парушэнні норм дэмакратыі і правоў чалавека.

**Ізраіль.** У другім туры галасавання дэпутаты Кнесэту выбралі новым 10-м па ліку прэзідэнтам краіны 74-гадовага былога спікера парламента Рэўвена Рыўліна.

**Украіна.** Большую частку гуманітарнай дапамогі, як прызнаў глава ўрада акупіраванага Расіяй Крыма С. Аксёнаў, раскралі, у магазінах дэфіцыт прадуктаў, мала едзе турыстаў.

**Расія.** Дарадца прэзідэнта РФ С. Глаз'еў прапанаваў пачаць бамбіць украінскую армію, нашпігаваную быццам нацыстамі, каб не даць ёй акрэпнуць і закрыць граніцу з Расіяй.

**Літва.** Краіна завяршыла ўзвядзенне СПГ-тэрмінала і першай у Балтыі знізіла сваю залежнасць ад "Газпрама", 20% гадавога спажывання газу ёй паставіць Нарвегія.

**Англія.** Пісьменніца Джоан Роўлінг, аўтар кніг пра Гары Потэра ахвяравала 1 мільён фунтаў стэрлінгаў, каб дапамагчы фінансаваць кампанію супраць незалежнасці Шатландыі.

**Грузія.** Аб'яднанне аэрапортаў краіны абвергла паведамленне КДБ Беларусі аб тым, што нібыта 41-гадовы грузін спрабаваў угнаць самалёт, які ляцеў з Кутаісі ў Мінск.

**КНДР.** Камітэт па правах чалавека паведаміў, што для пашырэння лагера № 25 адвалі тэрыторыю нават двух могілак, палітычных зняволеных там па зверску катуюць.

**Расія.** Пасля праліўных дажджоў у зоне затаплення апынуліся Алтайскі край, рэспублікі Хакасія і Тува, у прыгарадзе Барнаула прарвала вадой дамбу, пацярпелі тысячы людзей.

**Польшча.** Да фестывалю візуальных мастацтваў на Алеі Руж у Новай Гуце пад Кракавам паставілі незвычайны ярка-зялёны помнік Леніну, які сікае, гэты ідал раней там стаяў.

**Расія.** Каб абысці блакаду Крыма, урад РФ стварыў новую танную авіякампанію "Дабралёт", аднак іншых замежных авіярэйсаў на анексаваны паўвостраў не будзе ніколі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Услед за прэзідэнтам глава МЗС У. Макей заявіў, што Беларусь расчаравана падпісаным дагаворам аб стварэнні ЕАЭС, бо няма агульнай эканамічнай прасторы.

**Астравец.** Пасля скаргі Літвы на ўзвядзенне Беларускай АЭС урад Беларусі запрасіў місію МАГАТЭ для маніторынга ўплыву будучай станцыі на акружаючае асяроддзе.

**Жодзіна.** З-за праблем на рынках збыту БелАЗ за год страціў 37% выручкі, прыбытак аўтагіганта знізіўся ў 5 разоў, за год штат працуючых скарацілі на 7% да 11,9 тысяч.

**Гродна.** Акрамя "Еўрахіма", як паведаміў расійскі пасол у Беларусі А. Сырыкаў, і яшчэ кампанія "Уралхім" збіраецца ўдзельнічаць у аўкцыёне па набыцці акцый "Гродна Азот".

**Мінск.** Пры праверцы гандлёвага дома "Легпрам" інспектары дзяржстандарту забракавалі партыю дзіцячага абутку, зробленага ў Кітаі, хоць яна мела расійскі сертыфікат якасці.

**Хойнікі.** На тэрыторыі раёна на глыбіні 4240 метраў геолагі знайшлі новае радовішча нафты, там можна будзе здабываць да 30 тон "чорнага золата" ў суткі.

**Мінск.** Да трохмесячных аб'ёмаў вытворчасці выраслі запасы непрададзенай прадукцыі на мясцовым заводзе ігрыстых він, крызіс пачаўся пасля продажу часткі акцый "Трайплу".

**Магілёў.** Па заказу шведскай кампаніі IKEA мясцовая швейная фабрыка "Магатэкс" стала шыць ужо 28 найменняў прадукцыі: сталовую бялізну, занавескі, салфеткі, шторы.

**Гомель.** Днём на заводзе КУП "Спецкамунтрас" адразу 11 чалавек прыцiснула плітой прэсформы для ліцця, з іх мужчына ва ўзросце 50 гадоў памёр на месцы здарэння.

**Мінск.** Пасол Расіі ў РБ А. Сурыкаў пацвердзіў, што Беларусь атрымае абяцаны летась восенню крэдыт у суме 2 млрд. USD у ліпеніжніўні пасля ўзгаднення з Дзярждумай РФ.

**Ашмяны.** Дзяржпагранкамітэт Беларусі пацвердзіў, што ў 2015 годзе на пункце пропуску з Літвой будзе ўведзена электронная чарга для жадаючых перасячы дзяржграніцу.

**Лельчыцы.** Міліцыя пачала высвятленне прычын гібелі хлопцаў 22 і 23 гадоў, трактарыста і студэнта ВНУ, якіх знайшлі павешанымі ў вёсцы Старыя Печы мясцовыя жыхары.

**Мінск.** У трэці раз у сваёй гісторыі мужчынская зборная Беларусі па гандболе пад кіраўніцтвам трэнера Юрыя Шаўцова прабілася на чэмпіянат свету-2015 у Катары.

**Гомель.** Пасля працяглай хваробы на 65-м годзе жыцця памёр ураджэнец горада, вядомы кампазітар Юрый Варум, ён пісаў песні для дачкі Анжалікі, быў цесцем Леаніда Агуціна.

**Мінск.** Адзіны кандыдат ад апазіцыі на новых прэзідэнцкіх выбарах, як заявіў старшыня АГП А. Лябедзька, будзе вызначаны на Кангрэсе дэмакратычных сіл у пачатку 2015 года.

# Браканьераў на аўтамабілях у Беларусі будуць спыняць з дапамогай «Ліяны»



■ Марыя Дзмітрыева, БЕЛТА

**У Беларусі браканьераў на аўтамабілях будуць спыняць з дапамогай спецзагароджанняў, паведаміла карэспандэнту БЕЛТА прэс-сакратар Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь Вольга Грамовіч.**

«Дзяржінспекцыя закупіла партатыўныя аўтамабільныя загароды» Ліяна». З дапамогай іх плануецца спыняць браканьераў, якія паспрабуюць схавацца з месца здзяйснення супрацьпраўных дзеянняў на аўтамабілях », - сказала яна.

«Ліяна», прызначаная для прымусовага спынення легкавога і грузавога колавага аўтатранспарту з пнеўматычнымі шынамі. Прыпынак адбываецца за кошт механічнага пашкоджання колаў шыпамі. Для большай эфектыўнасці ўздзеяння шыпы-перфаратары, выкананыя з трубчастага профілю з завостранымі канцамі, здымныя. Пасля наезду яны застаюцца ў коле, забяспечваючы хуткае страўліванне паветра, нават калі ёсць swap. Пры гэтым прылада больш бяспечна ў параўнанні з састарэлымі «вожыкамі», яна зніжае рызыку заносу або пераваароту транспартнага сродку.

Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь апрабавала «Ліяну» падчас навучальнага збору, у якім прынялі ўдзел больш за 200 службовых асоб з усіх рэгіёнаў рэспублікі. Прыродаахоўнікі, у прыватнасці, адпрацоўвалі з дапамогай прылады спосабы прымусовага спынення транспартных сродкаў. Акрамя таго, інспектары адточвалі методыку дагляду аўтамабіляў, прыёмы самаабароны і затрымання ўзброеных браканьераў, удзельнічалі ў стрэльбах, выконвалі спартыўныя нарматывы. Таксама працягвалі вывучаць правапрымяняльную практыку, у тым ліку здалі залікі на веданне новых правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, якія ўступаць у сілу з 26 чэрвеня гэтага года.

Для ўдасканалення метадаў выяўлення і фіксацыі супрацьпраўных дзеянняў браканьераў былі апрабаваныя беспілотныя лятальныя апараты. Гэтая тэхніка дазваляе бесперашкодна фіксаваць драбнюткія дэталі правапарушэння (ад знешнасці браканьераў да нумароў іх аўтамабіляў і маламерных судоў), у тым ліку ў цёмны час сутак. Таксама з паветра добра праглядаюцца месцы ўстаноўкі сетак.

Дзяржінспекцыя ў бягучым годзе зрабіла тэхнічнае перааснашчэнне, закупіўшы 12 сучасных аўтамабіляў «УАЗ Патрыёт» (заключаны дагавор на пастаўку яшчэ 14). Набыты 3 маламерных судны «Кайман», хуткасны гідрацыкл, 9 цеплавізараў, 56 лічбавых відэакамер, запісы з якіх стануць доказамі ў судзе.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Да канца года на ААТ "Нафтан" і на Мазырскім НПЗ запланавалі павялічыць выпуск бензіна на 15,1 % да 4,2 млн. тон, на экспарт адгрузяць паліва 3,1 млн. тон.

**Глыбокае.** Да свайго 600-годдзя павінны завяршыць рэканструкцыю гарадской лазні і адкрыць новы прыгожы будынак Белдзяржстраху, юбілей райцэнтра адзначаць 4-5 ліпеня.

**Віцебск.** У пачатку чэрвеня больш паловы білетаў на канцэрты фестывалю мастацтваў "Славянскі базар" ужо раскупілі на 15 мільярдаў рублёў, актыўна ідзе продаж па Інтэрнэту.

**Паставы.** Па ўказу прэзідэнта да 1 жніўня 84 супрацоўнікі былога асобнага авіяатрада пагранвойск з аэрадромам "Азёркі" пяройдуць служыць ва ўстанове "Авіяцыя МНС".

**Віцебск.** Па месцу жыхарства міліцыя затрымала з буйной партыяй наркотыкаў 22-гадовага таксіста, ён арганізаваў іх дастаўку са Смаленска і прадаваў праз Інтэрнэт.

**Шаркаўшчына.** У рамках праекту ЕС/ПРООН дэлегацыя раёна наведала Партугалію, 8 дзён вывучала вопыт працы экалагічных школ Лісабона і ваколіц па ахове прыроды.

**Верхнядзвінск.** Падчас купання з сябрамі ў рацэ Дрыса патануў вучань 3 класа, за суткі да гэтага загінуў на возеры паблізу Віцебска 14-гадовы падлетак услед за выпускніком.

**Віцебск.** Журналіст Дзяніс Бліщ пабываў на фестывалі паветраплавання на Пскоўшчыне, убачыў жахлівыя ўмовы жыцця расійскай глыбінкі без дарог, поўнае запусценне і адчай.

**Глыбокае.** Вышэйшую ўзнагароду нацыянальнага конкурсу-дэгустацыі "Чэмпіён смаку" Гран-пры ў ліку толькі 9 прадуктаў краіны атрымала згушчонка мясцовага МКК.

**Талачын**. Праверка УУС аблвыканкама выявіла ў раёне адсутнасць 19 вартаўнікоў на рабочых месцах у гаспадарках раёна, яшчэ 7 калгаснікаў затрымалі за крадзяжы.

**Ушачы.** На цэнтральнай плошчы райцэнтра ўпершыню адбыўся раённы баль выпускнікоў, больш 90 юнакам і дзяўчатам уручылі атэстаты, а 4-м – накіраванні ў ВНУ.

**Браслаў.** Пры спробе нелегальна пешшу трапіць у Латвію нарад Полацкага пагранатрада затрымаў трох грамадзян Грузіі і двух грамадзянак Расіі, маці з дачкой.

**Віцебск.** У рамках Дня горада адкрылі помнік князя Альгерда вышынёй 3,5 метры на кані з сокалам у руцэ, супраць манумента раней выступалі прарасійскія адыёзныя дзеячы.

**Наваполацк.** На працягу трох дзён праходзілі ўрачыстасці Дня горада са святам кнігі, фіналам конкурсу прыгажосці, выставамі, канцэртамі, сустрэчай з першымі будаўнікамі.

**Віцебск.** Шэраг гарадскіх двароў упрыгожылі каляровыя графіці з вялікімі партрэтамі Пушкіна, Гагарына, Мерылін Манро і іншых вядомых у свеце слаўтых людзей.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Доўгая дарога дадому





■ **Людміла Ардынская,**
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*

## Ада Эльеўна

Яна ладзіла вечарыну, прысвечаную 90-годдзю народзінаў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Тэлефанавала ўсім, каго мелася запрасіць. Мне ўспомніўся надзвычай цёплы лютаўскі дзень, калі Ада Эльеўна праводзіла ўсебеларускую дыктоўку з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы, які адзначаецца 21 лютага. Сябрам раённага ТБМ быў прапанаваны тэкст пра Васіля Быкава пад загалоўкам “Доўгая дарога дадому”. З таго часу мы не сустракаліся. Аду Эльеўну Райчонак ведаюць не толькі ў вобласці і розных куточках Беларусі, але і за мяжой. На яе рахунку столькі добрых спраў, заўважце: спраў, а не прыгожых слоў, якія і пералічыць цяжка. Яшчэ настаўніцай пачала ствараць краязнаўча-этнаграфічны музей у Германавіцкай школе, які потым ператварыўся ў культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча. На ўласныя сродкі аднавіла музей-сядзібу знакамітага садавода Сікоры і ў мінулым годзе перадала дакументы на ўладанне ім дзяржаве. Стварыла прыватны літаратурна-мастацкі музей імя Міхася Райчонка, пра які рэжысёр Ул. Колас зняў дакументальны фільм “Галерэя Ады”. На кінафестывалях дакументальных фільмаў за мяжой ён атрымаў тры прэміі. Яна ладзіць пленэры, літаратурныя чытанні і вечарыны, прымае ўдзел у розных канферэнцыях.

У ліку добрых спраў – дабрачыннасць, таму што ў гэтай жанчыны вялікае сэрца і не чэрствая душа ў адносінах да тых, каму балюча і цяжка ў такім складаным чалавечым жыцці. Іншы раз апаліць крылы яе дабрыні абыякавасць, непаразуменне, элементарная няўдзячнасць. Іншы раз здзіўляешся, як стае ў яе сілы цягнуць гэты нялёгкі для яе ўзросту воз. Мабыць, дапамагае ідэя, моцная вера ў значнасць справы, якой яна служыць, падтрымка аднадумцаў і надзея, што зярняты, якія не ўпадуць у пустую глебу, абавязкова з’явяцца расткі.

Нядаўна арганізавала за ўласныя сродкі перасоўную выставу, каб пабачылі людзі карціны мастакоў, якія ўдзельнічалі ў пленэры, прысвечаным 125-годдзю народзінаў Язэпа Драздовіча.

Сорак тры карціны Віктара Крука, Яўгена Ліпскага, Алеся Саўчанкі, Алеся Марачкіна, Аляксандра Шыёнка ды іншых вандравалі з Віцебскага абласнога мастацкага музея па вобласці. Полацк, Лепель, Шаркоўшчына, Глыбокае і далей – такі іх шлях. На жаль, у невялікім нататку “У вандроўку за марай” у раённай газеце ніводнага слова пра арганізатара выставы, што вельмі дзіўна.

Вось наша няўрымслівая Ада Эльеўна, чытаю ў “Вольным Глыбокім”, - удзельніца прэзентацыі новых фільмаў глыбоцкіх журналістаў Яўгена Самсонава і Леаніда Юрыка. Робіць слушныя заўвагі. А ў канцы траўня ладзіць вечарыну, прысвечаную 90-годдзю народзінаў народнага пісьменніка Васіля Быкава. Запрашае шмат людзей у Германавічы. Не абдзелены ўвагай і Шаркоўшчынскі “Світанак”, начальнік ідэалагічнага аддзела райвыканкама Л.У.Стома. Імпрэза мела адбыцца 31 траўня ўвечары, а шостай гадзіне.

За дзень даведваемся, што сышоў з жыцця беларускі пісьменнік Генадзь Бураўкін з кагорты Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна. Ён быў сябрам юнацтва Ады Эльеўны, разам вучыліся і сябравалі, падтрымлівалі адносіны ў далейшым жыцці. “Беларуская літаратура асірацела, “ – сказала Ада Эльеўна пры сустрэчы на вечарыне.

## Галерэя Ады сустракае

Едзем у Германавічы з кіраўніком “Світанку” Кацярынай Сосна і сяброўкай па пяру Надзеяй Паляк. У мяне настрой ніякаваты. Хуткасць аўто невялікая, таму стае часу разглядаць краявіды. Азіміна прыгожая, перазімавала добра. Разы два сустракаўся статак кароў на пашы, травастой небагаты, не густы. Краявіды таксама не з маляўнічых. Чамусьці ўспомніліся купалаўскай “Паўлінкі” радкі: “Наша поле камяніста, не праехаць, ні прайсці”. Навязліва гучала ў галаве тужлівая беларуская мелодыя. Ціша, прасторы палёў, лес удалечыні, нешматлюдныя вёскі, і спрадвечная цяжкая сялянская праца, каб хлеб і малако, ды яшчэ скварка былі да стала. Хоць камяні ўбраныя – і зямля ўрадлівай стала.

Неўпрыкметку даехалі да Германавіч, выйшлі з машыны каля літаратурна-мастацкага музея імя Міхася Райчонка, сына Ады Эльеўны, пісьменніка, этнографа, фальклрыста, справу якога яна прадаўжае. Гэта, думаю, надае ёй сілы і моцы духу. На вялікай пляцоўцы перад будынкам ужо сабраліся музыкі з Мінска, спевакі з Наваполацка, фальклорны гурт “Варган” Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, як мы потым даведаліся. Тут жа – партрэт Васіля Быкава і выстава яго твораў. Паступова збіраліся госці. Сардэчна прывітаўшыся з гаспадыняй, пайшлі агледаць залы музея. Безумоўна, галерэя Ады ўражвае. У ёй сабраныя творы таленавітых мастакоў, у тым ліку і нашых землякоў Віктара Крука, Пятра Касцюкевіча. Пейзажы роднай зямлі: буслы на сенажаці, адзінокі дубволат, забітыя дошкамі вокны старой хаты паміраючай вёскі, зялёны бярозавы гай – такое ўсё роднае, блізкае - не пакідаюць абыякавымі наведвальнікаў. Цудоўныя партрэты Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Караткевіча – каштоўнасці для нашчадкаў.

У музеі вялікі збор твораў беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку Васіля Быкава. Мяне асабліва зацікавіў зборнічак Рыгора Барадуліна, у якім вершы змешчаны ў рукапісным выглядзе. Прадстаўлена шмат літаратуры па краязнаўству нашага паўночна-заходняга краю. З якой жа любоўю, зацікаўленасцю, стараннасцю стваралася гэтыя набыткі! Уразілі, як мне падалося, манументальнасцю партрэты Ады і Міхася Райчонкаў, маці і сына.

## Імпрэза пачалася

Хвілінай маўчання ўшанавалі памяць Генадзя Бураўкіна. Першым быў выступ Ады Эльеўны. Пра Быкава гаварыла проста, зразумела, сцісла. Мне здавалася, нібыта яна вядзе ўрок, а ўсе прысутныя – вучні, якія ўважліва слухаюць яе – засталася настаўніцай назаўсёды.

У школе выкладала рускую мову і літаратуру, таму цікава было пачуць, як Ада Эльеўна прыйшла да беларускасці. Яна нагадала такі эпізод са свайго жыцця: “Удзельнічала ў мерапрыемстве, дзе слова трымаў Васіль Быкаў. Пасля ягонага выступу, - успамінае Ада Эльеўна, - я зразумела, што павінна гаварыць пабеларуску. Пачала нясмела, чула, як ён падбадзёрваў”. З гэтай сустрэчы і пачалося яе вяртанне дадому, наперадзе была доўгая дарога.

Дала слова світанкаўцам. Кацярына Сосна, кіраўнік народнага літаратурна-музычнага аб’яднання “Світанак”, паэт Міледзій Кукуць – сябры СПБ – прачыталі свае вершы. Верш М.Кукуця, прысвечаны Міхасю Райчонку, асабліва крануў прысутных. У ім рэфрэнам гучыць радок-кліч: “*Міхась, Міхась, Міхась,*” – клікалі вецер, чайкі, рачныя трыснягі жаласліва, бо сумавалі па чалавеку, які любіў свой край і апаэтызаваў родныя мясціны.

Сябра “Світанка” Надзея Паляк, вельмі таленавітая творчая асоба прачытала верш, які прысвяціла памяці Васіля Быкава.

Далей праграму вяла Вольга Фёдарава, навучэнка Полацкага музычнага коледжа, ураджэнка вёскі Германавічы, прыхільніца творчасці Міхася Райчонка, аўтар музыкі на вершы паэта-земляка. Яна прадставіла ўдзельнікам вечарыны музыку з Мінска Віктара Сямашку, які пры дапамозе музычных інструментаў народаў свету (беларуская дуда, латышская трашчотка, труба, тыбецкая чаша, афрыканская калімба, розныя масавыя інструменты) паказаў імправізацыю мелодый беларускага фальклору, музыку іншых народаў з элементамі джазу.

Раман Яраш, выкладчык замежнай мовы БДУ, выканаў некалькі песень з рэпертуару гурта “Акварыум” у перакладзе на беларускую мову. Запомніліся словы:

*Калі ты хочаш,*
*Каб было куды вяртацца,*
*Пара вярнуцца дамоў.*

Дамоў – гэта значыць, думкамі, талентам, справамі, любоўю да роднай зямлі, гістарычнай спадчыны, мовы – да беларусчыны, у Беларусь.

І яшчэ, з песні “Човен ідзе на дно”.

*…мова, што дала нам імя*
*І мне, і яму, і табе,*
*Ты не станеш сабой,*
*Калі знікне яна.*

## Пара вярнуць нашу мову сабе

Асабліва прыгожа гучала ў выкананні Рамана Яраша беларуская песня “Туман ярам, туман далiною”. Прыгожы голас спевака, яго натхнёнасць захапілі ўсіх, яму сталі падпяваць. Стас Сілка, студэнт Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, выканаў некалькі аўтарскіх песень пад уласны акампанімент гітары.

Асабліва хочацца адзначыць выкананне ў аўтэнтычнай манеры традыцыйных беларускіх песень, абрадавых (вясновыя, купальскія, жніўныя, калядныя)фальклорным гуртом “Варган” Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Кіраўнік – дацэнт кафедры гісторыі Емяльянчык Вольга Антонаўна. Вельмі прывабныя дзяўчаткі ў беларускіх строях – удзельніцы фальклорных фестываляў на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі. Вось такога аўтэнтычнага выканання беларускіх песень я не чула нават ад тых жанчын, каму цяпер 80 гадоў і больш. Зніклі вясельныя песні, галашэнне, яшчэ крыху трымаюцца калядныя, велікодныя, і то – адной-дзвюма асобамі.

Давялося разам сядзець з Вольгай Антонаўнай у час канцэрта. Яна зазначыла, што для гурта “Варган” традыцыйныя песні – гэта спосаб вандравання ў прасторы (розныя рэгіёны Беларусі) і часе: многія песні сягаюць сваімі каранямі ў тысячагадовую глыбіню. У рэпертуары гурта ўкраінскія, балканскія, расійскія песні.

Песня, як і мова – душа народа, толькі праз іх можна зразумець душу народа, адчуць сілу зямлі.

“Назва фальклорнага гурта паходзіць ад старажытнага музычнага інструмента варган, які знаходзілі археолагі падчас раскопак старажытных беларускіх гарадоў,” – тлумачыць Вольга Антонаўна. І дадае як гісторык, што ў некаторых народаў Поўначы варган – шаманскі інструмент, які дапамагае шаману перамяшчацца ў прасторы і часе.

Успомніліся докшыцкія Варганы. Хто ведае, можа паміж назвай вёскі і інструментам існуе якаясьці сувязь.



**На здымку:** удзельнікі імпрэзы глядзяць канцэрт. *Фота Змітра Лупача*

*Заканчэнне на стар.5*

# Доўгая дарога дадому

Пачатак на стар.4

Быў ціхі вечар, воддаль на пляцоўцы развялі невялікае вогнішча. Адчувалася прахалода. Хтосьці падыходзіў да агню, разыходзіцца не спяшаліся. Вечарына сабрала разам незнаёмых людзей з рознымі поглядамі, звычкамі, заняткамі. Але ўсе адчувалі, што нас аб'ядноўвае агульнае: любоў да Беларусі, яе культуры і гісторыі, роднай мовы. І дапамагае ў гэтым Ада Эльеўна. Па пляцоўцы бегаў маленькі светларусы хлопчык у саламяным капялюшыку з прыгожым дзіцячым пляцаком (так у нас сталыя людзі называлі рукзак, ранец – нямецкія словы), а тут проста: тое, што за плячыма. Ён быў падобны на маленькі моцненькі баравічок, так мы і назвалі хлопчыка-мінчука Яна, старэйшага сына Віктара Сямашкі. Яму чацвёрты год, а на руках у жонкі Віктара – маленькі дзевяцімесячны Марцін. Дзеці яшчэ не свядома, але ўжо далучыліся да таго, як і чым жывуць іх бацькі.



## Не разумелі яго праўды

З партрэта, нібы жывы, глядзеў на ўсё, што адбывалася, Васіль Быкаў. На паліцы размясцілі яго торы – багатую спадчыну, у якой праўда гістарычных падзей, перажытых народам, правікнёнасць у лёсы простых людзей з сваёй зямлёй, з сваёй вайной, прынясце ім людской бяды, людскога болю.

*"Каб пісаць, як Быкаў, трэба не толькі талент мець, сваю жыццёвую пазіцыю, але і смеласць, мужнасць. Апошняе не кожнаму ўласціва"*, - піша ва ўспамінах пісьменнік Іван Стадольнік, колішні супрацоўнік рэдакцыі глыбоцкай раённай газеты.

*"…Ён уражвае – паказвае малапрывабныя бакі рэчаіснасці, выгляд якое не мог не бянтэжыць савецкага пурытанскага чытача і крытыка.*

*…Кожны твор – спроба вырвацца з адчужэння, але марная спроба.*

*Нібыта паўсюль адны пакуты, несправядлівасць, абсурд сусветнага беспарадку.*

*…Ён – пісьменнік трагічнага светаадчування. Гэта бясспрэчна. Але бясспрэчна і яго настойлівая прага змен, надзея на тое, што цемра не можа агарнуць святло."*

***Ціхан Чарнякевіч.***

**Нататкі крытыка. Васіль Быкаў. Адзінота і свабода.**

Так, Васіль Быкаў быў выкінуты на ўзбочыну жыцця, *"але ён,* - адзначае Ц.Чарнякевіч, - *указаў шлях, па якім ідзе амаль уся наша лепшая проза – асэнсаванне лёсу краіны, пошукі выйсця да сапраўднай Беларусі. Па гэтай доўгай дарозе дадому, па якой ішоў Васіль Быкаў, павінны ісці і мы, каб дайсці да Беларусі."*

Быкаў, Караткевіч, Барадулін, Бураўкін – найгучнейшыя, найзнакамітыя імёны ў беларускай літаратуры другой паловы дваццатага стагоддзя, асілкі-абярэгі, якія сімвалізуюць духоўнае жыццё Беларусі. *"Іх жыццёвае і творчае крэда: вернасць сяброўству, Бацькаўшчыне, народу, мове. Багатая літаратурная спадчына пісьменнікаў утварае тую магутную і глыбокую плынь ракі, якую Рыгор Барадулін назваў Беларускасцю,"* – адзначае крытык:

*…Беспамяцце гадуе жабрака,*
*З вякамі поўная, як з берагамі,*
*ПлыцьбудзеБеларускасці рака.*

Хочацца маленькай крупелькай далучыцца да плыні гэтай ракі, быць таксама вернымі сваёй зямлі і мове.

## Развітанне і роздум

Гасцей, якія затрымаліся, пачаставалі юшкай. Рыбу, казалі, прывёз Зміцер Лупач*, супрацоўнік "Вольнага Глыбокага". Упершыню ўбачыла чалавека, які набіраў мае артыкулы, вершы. Давялося крыху пагутарыць.

Але надышоў час развітвацца з гаспадарамі. Сардэчна дзякавалі за запрашэнне, цёплы прыём, пачастунак. За сталом большасць складала моладзь. Думаю, што ў сэрцы Ады Эльеўны цеплілася, як і ў нас,старэйшых, надзея на тое, што маладыя будуць годнымі спадкаемцамі той справы, якой яна служыць усё жыццё.

Госці раз'язджаліся, але Ада Эльеўна не заставалася ў адзіноце. Побач з ёю былі ўнукі, сын, муж – сям'я, з якой не страшныя любыя іспыты, і сябры-аднадумцы. Значыць, наперадзе – новыя праекты, задумкі, хоць і не стае на ўсё сіл.

Насупраць літаратурна-мастацкага музея ўзвышаецца стромкімі вежамі касцёл Дабравешчання, якому больш за два стагоддзі. Мінулае і сучаснае. 17 аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны раёна ўваходзяць у дзяржаўны спіс. Большасць з іх створаны продкамі. А наша доля? На гэты конт у Ады Эльеўны чыстае сумленне, яна шмат папрацавала за сваё жыццё. Вельмі крыўдна, калі на мерапрыемствы, асабліва літаратурныя вечарыны, не прыходзяць настаўнікі. Што гэта? Духоўная дэградацыя інтэлігенцыі?




**На здымку:** апошняя кніга, што выйшла пры жыцці пісьменніка.

Вярталася ў свае Радзюкі, але мне не было так сумна: я сустрэлася з людзьмі, якія пішуць вершы, песні, музыку, не саромеюцца размаўляць па-беларуску, значыць, яны не "бязродныя сыны", - як пісала Яўгенія Янішчыц:

*Ды калі ты не бязродны сын,*
*Гавары са мной па-беларуску.*

Аб гэтым марыў і Васіль Быкаў. У адным з сакавіцкіх нумароў адразу пасля сыходу з жыцця Рыгора Барадуліна газета "ЛіМ" пісала: *"Там у выраі, у які ён верыў, яны ўсе зноў разам: Караткевіч, Быкаў, Барадулін"*. 30 траўня яны прынялі да сябе і Генадзя Бураўкіна.

Адбылося вяртанне з доўгай дарогі дадому. Засталася Памяць і Спадчына.

*Вымушаны адзначыць, што рыбу прывёз не я, лавілі іншыя людзі, я прынёс з агня толькі гатовую юшку– *Зміцер Лупач*

# Мечыслаў Грыб: Васіль Быкаў быў не толькі вялікім пісьменнікам, але і выдатным палітыкам

## У Бычках на Ушаччыне адзначылі 90-годдзе з Дня нараджэння беларускага класіка



**На здымку:** кіраўнік Руху «За свабоду» Аляксандр Мілінкевіч уручае ўзнагароду барду Віктару Шалкевічу. *Фота Змітра Лупача*

У суботу, 21 чэрвеня, больш за дзве сотні чалавек сабралася ў вёсцы Бычкі, што ва Ушацкім раёне, каб адзначыць 90-годдзе з Дня нараджэння Васіля Быкава.

Васіль Быкаў нарадзіўся ў гэтай вёсцы 19 чэрвеня 1924 года, адсюль пачалася яго дарога ў вялікі свет.

Таму і 19 чэрвеня гэтага года тут адбыліся афіцыйныя мерапрыемствы з гэтай нагоды. Грамадзянская супольнасць святкаванне гэтай даты перанесла на выхадны дзень, каб больш гасцей змагло патрапіць на гэта свята. І гэта цалкам апраўдала надзеі арганізатараў – людзей сабралася як ніколі шмат.

Адкрыў урачыстасць Іосіф Навумчык, старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Ён адзначыў той вялікі ўклад, які зрабіў у беларускую літаратуру Васіль Быкаў, а таксама звярнуў увагу на тое, што яго імя павінна не знікнуць з гадамі з нашай памяці. А наадварот, цікавасць да яго і яго твораў павінна толькі ўзрастаць.

Потым выступіла Валянціна Уладзіміраўна – родная сястра беларускага класіка. Яна падзялілася сваімі ўспамінамі пра брата, распавяла пра яго дзіцячыя і юнацкія гады. Асабліва шчымлівым быў яе расповяд пра ваенныя гады, калі сям'я нічога не ведала пра лёс Васіля. Родныя нават атрымалі на яго пахаронку, але потым памылка, на вялікае шчасце родных, была высветлена.

Выступілі таксама і прадстаўнікі раённай улады: намеснік старшыні Ушацкага райвыканкама Наталля Марковіч і супрацоўніца раённага музея Народнай славы Дар'я Мілая.

Пра свае знаёмства з Васілём Быкавым распавялі Валянціна Барадуліна, жонка Рыгора Барадуліна, і пісьменніца Вольга Іпатава.

Уладзімір Някляеў аб'явіў прысутным пра тое, што з турмы на волю выйшаў Алесь Бяляцкі, што было вельмі радасна ўспрынята гасцямі свята. Потым паэт вельмі эмацыйна прачытаў свае вершы, прысвечаныя Васілю Быкаву і Алесю Бяляцкаму.

Былы кіраўнік Беларусі Мечыслаў Грыб у сваім выступе ўзгадаў, што Васіль Быкаў быў не толькі выдатным пісьменнікам, але і вялікім палітыкам.

Гэту думку падтрымаў і старшыня ТБМ Алег Трусаў, які ўзгадаў падзеі 1988 года, калі ствараўся Беларускі Народны Фронт "Адраджэнне", у працы аргкамітэта якога самы непасрэдны ўдзел браў Васіль Быкаў.

Напрыканцы мерапрыемства адбылося ўручэнне прэміі "За свабоду думкі", намінантам якой сёлета стаў гарадзенскі бард Віктар Шалкевіч, які пасля парадваў прысутных сваімі песнямі.

## Прысвячэнне

*Да 90-годдзя народзінаў Васіля Быкава*

Агонь вайны, трагізм і мужнасць,
І жорсткасць праўды праз гады,
Людская годнасць, яе сутнасць
З жыцця пяройдуць у "Знак бяды".
Жыць будуць яго творы-абеліскі.
Жыць будуць нават праз вякі.
Яшчэ з маленства, з матчынай калыскі
Яму наканаваны лёс такі.
Не разумелі яго праўды,
Навошта? Лепш хлусі, мані.
Як пераЖыць такую крыўду?
Як пераЖыць? А ты жыві!
Адно: "Альпійская балада"
Агнём у сэрцах палыхне.
З акопнай праўдай бы са здрадай,
Жыццё нібыта ў цяжкім сне.
Людскога болю ім прынясце,
Што даражэй высокіх слоў,
Да Мовы, Бацькаўшчыны-маці
Святая сынава любоў.

***Надзея Паляк,***
*сябра "Світанка", г.п. Шаркоўшчына*

